Год VI. Ліпень-Жнівень № 7-8 (67-68).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 7-8:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.

„ на паўгода. . . . . 1 зл.

„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

Адрэс Рэдакцыі: Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

// Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| | | |
|---|---|---|
| Год VI. | Вільня, Ліпень-Жнівень 1934 г. | № 7-8 (67-68). |


* * *

Плыве, плыве з нязнанай далі,
Плыве з грудзей працоўных мас,
Плыве ад сонца ў сьветлай хвалі
І ад машын з ласкотам сталі,
Другі закон жыцьця да нас.
У творчых муках пераліва
Яшчэ гарыць бяз форм усё;
То ўспыхне ярка і бурліва,
То з старых рамаў баязьліва
Прагляне новае жыцьцё.
І з кожным днём ўсё болі, болі;
Зьбірае сілы гібкіх рук,
Гартуе іх жаданьнем волі
Жаданьнем моцным, аж да болі,
Кавацць жыцьцё, — з вяковых мук.
На кліч магутнага прызыва
Ідуць тварцы з усіх кутоў,
Ідуць спакойна і маўкліва
З адважнай верай, як на дзіва,
З мястэчак, сёл і гарадоў.
Жаданьне ўсіх, — сваей рукою
Тварыць жыцьцё — свой лёс тварыць.
Працуюць дружнай грамадою,
Цярпеньне скрыўшы пад палою,
А ўзрыў—вулкан ў грудзёх кіпіць.

**М. Машара.**

## ЧЫМ ЁСЬЦЬ ЖЫЦЬЦЁ.

Жыцьцё — змаганьне,— кажуць людзі,
Дык са спакойнаю душой
Вядуць, пабраўшыся за грудзі,
Сьмяротны бой паміж сабой.

Жыцьцё — змаганьне, бязумоўна,
Але на гэтым не канец,
Дадай, — каб з праўдай было згодна—
—Дабра са злом —цьвярдзіць мудрэц.

**В. Катовіч.**

Ад. Станкевіч.

5)

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

*З нагоды 70-лецьця сьмерці К. Каліноўскага рэд. „Mužyckaj Praŭdy“ (†1864) і 50-лецьця „Гоману“ (1884).*

## IV. К. Каліноўскі — пачынальнік беларускага палітычнага вызваленьня.

**(Працяг, гл. „Шлях Моладзі“ № 6 с. г.)**

Для большай яснасьці і грунтоўнасьці, доказы, пацьвярджаючыя характар Каліноўскага, як пачынальніка беларускага палічычнага і соцыяльнага вызваленьня, пастараемся прадставіць хоць коратка, але па парадку і сынтэтычна.

Сам час, у якім жыў Каліноўскі і тыя ідэовыя палітычна-грамадзкія кірункі, якімі тады жыла інтэлігенцыя, ужо зьяўляюцца доказам, што быў ён народнік-фэдэраліст. Тады паступовая інтэлігенцыя, асабліва-ж акадэміцкая моладзь расейскіх унівэрсытэтаў, што прымала ўчасьце ў тагочасным палітычным і грамадзкім жыцьці, агулам гаворачы, была пераважна народніцкай у справах соцыяльных і культурных і трымалася шырэйшага ці вузейшага фэдэралізму ў палітыцы. Ужо з гэтага відаць, што да гэных кірункаў мусіў належаць і Каліноўскі.

Ды-й гістарычным пэўным ёсьць фактам, што Каліноўскі, яшчэ ў Пецярбурскім унівэрсытэце, запазнаўшыся з тагочаснымі рэвалюцыйнымі імкненьнямі Расейцаў, Украінцаў і Палякоў, калі павёў рэвалюцыйную працу сярод Беларусаў Горадзеншчыны, рабіў гэта ў сьціслай лучнасьці з польскімі дэмократамі, з так званымі чырвонымі, якія сапраўды былі народнікамі — фэдэралістымі. Ясна, што ня інакшым мусіў быць і Каліноўскі. І быў такім сапраўды ды й яшчэ ў большай меры, бо быў заўсёды варожа настроеным да польскіх панскіх[1]) арганізацыяў, якія фактычна ніколі не прызнавалі народнай волі народам нашага краю, і апрача гэтага быў ён фактычна павадыром і арганізатарам польскіх дэмакратаў народнікаў.

К. Каліноўскі дзеля пашыраньня сваіх ідэяў выдаваў першую беларускую часопісь „Mužyckaja Prauda“ і іншыя беларускія друкі, якія выразна пацьвярджаюць народніцка-фэдэралістычны характар яго, як палітычнага і грамадзкага беларускага дзеяча.

---

1) ...„Nie dbam o nic, to przez okno na dach, to inszemi sposobami zawsze szczęśliwie z rąk ich (Маскалёў — А. С.) się wyślizgam. Opieka Boska czuwa nade mną, a jeśli przyjdzie się zawisnąć, to niech będzie na pociechę wszystkim szlagom (паном, што проціў яго — А. С.) litewskim i prześwietnej Moskwie“. (З лісту Каліноўскага да Б. Длускага. Арыгінал у бібл. Оссолінскіх. Цытую з одпісу Р. Керсноўскага).

І сапраўды, спатыкаем між іншым там гэткія выражэньні: „O zahrymić nasza (мужыцкая — А. С.) praŭda i jak małanka pralacić pa świecie"... „Ad maskala i panou niema czeho spadziawacisia, bo jany nie wolności a hłumu i zdzierstwa naszeho choczuć... No niedouho jany nas buduć abdziraci, bo my paznali hdzie siła i praŭda i budziem wiedać jak rabić treba kab dastać **ziamlu i wolu**" (падкр. — А. С.)[1] ...„Kab narod nasz na wiek wiekau byu wolny i szczaśliwy"[2]) ...„Czaławiek wolny, kali maje kusok swajej ziamli, za katoru ani czynszu i abroku nie płacić, ani panszczyny nia służyć". „Nam wolnaści treba nie takoj, jakuju nam car schoča daci, no jakuju my sami mużyki pamiż saboju zrobimo"[3]). „U nas adno wuczać pa szkołach, kab ty znau czytaci pa maskousku, a to dla taho, kab ciabie sausim pierarabili na maskala"[4]).

Краю нашага і нашага народу Каліноўскі ў «Muż. Pr.» ніколі не называе польскім, а наадварот — заўсёды яго Польшчы процiўстаўляе. Ад Масквы адгараджваецца выразна. З Польшчай, праўда, цалком ня зрывае, разам з ёю кліча народ наш да паўстаньня, але за сваю вольнасьць: „Stańmo drużna razom za naszuju wolnaść... A budzie u nas wolnaść, jakoj nia było naszym dziedam i baćkam"[5]).

Беларускі народніцкі характар Каліноўскага пацьвярджае таксама і факт яго адносінаў да рэлігіі. Ён у «Muż. Pr.»[6]) горача выступае ў абароне Уніі. І гэта зразумела; праваслаўе было тады, як і цяпер, аружжам маскоўшчыны, а лацінскае каталіцтва аружжам — польскасьці. Адно і другое было сымболем народнага ўціску. Унія-ж — наадварот: гэта была фактычна мужыцкая народная вера, пагарджаная пануючымі, як і сам мужык беларускі.

У іншых беларускіх друках Каліноўскі аказваецца нам яшчэ выразьвей, як беларускі народнік і фэдэралісты. „Kali rząd polski—кажа ён у пісьме з пад шыбеніцы[7])—usim bratnim narodam daje samauradstwa maskal mała taho, szto hetak nia robić,no jaszcze tam, hdzie żyli palaki, litoucy i biełarusy zawodzić maskoŭskija szkoły, a u hetych szkołach uczuć pa maskoŭsku, hdzie nikoli nie paczujesz i słowa: pa polsku, pa litousku da i pa biełarusku, jak narod taho chocze". У тым-жа пісьме Каліноўскі вылічае ўсе тыя зьдзекі, якіх народ дазнаваў ад царскіх уладаў, і ўрэшце так кажа. „Oś to dla czaho każem, szto polskaje dzieło — heto nasze dzieło, heta wolnaści dzieło".

І сапраўды, Палякі ў 1863 г. ужо былі прызнаўшы нашым землям гэна свайго роду „самаўрадзтва"[8])

1) „Mużyckaja Prauda" Nr. 1. 2) „Mużyckaja Prauda" Nr. 2.
3) " " Nr. 3. 4) " " Nr. 4.
5) " " Nr. 7. 6) " " Nr. 6.
7) Piśmy z pad szybienicy.
8) а) Надзяленьне сялян зямлёй, б) Роўнасьць усіх, в) Злучаным з Польшчай братнім народам Літвы і Русі прызнаньне найшырэйшага разьвіцьця нацыянальнасьці і мовы... (Dekret Tymczas. Rządu Narodowego z 10.V.1863).

„Narodzie—дзеля гэтага ўрэшце піша Каліноўскі—jak tolki paczujesz, szto braty twaje z pad Warszawy bjucca za praudu i swabodu, tahdy i ty nie astawajsia zzadu, no uchapiuszy za szto zmożesz — za kasu, siakieru i całaj hramadoj idzi wajawaci za swajo czaławieczaje i narodnaje prawa, za swaju ziamlu rodnuju“[1]).

Калі ж урэшце ідзе нам аб Каліноўскага выключна як фэдэралістага, дык гэта дастатачна выказана галасамі сучасных яму гісторыкаў, у маей аб ім кніжыцы[2]) і тут гэтага ўсяго паўтараць ня буду. Аб тым, што Каліноўскі змагаўся за свайго роду палітычную самастойнасьць зямель Беларусі і Літвы, дапушчаючы іх сужыцьцё з Польшчай толькі на асновах фэдэрацыі, аб гэтым — кажу — для навукі сяньня няма ніякага сумніву. Існуюць толькі сумнівы што да сутнасьці гэтай фэдэрацыі, гэта знача — паўстае пытаньне, у чым іменна мела праяўляцца і як далёка сягаць гэная залежнасьць Беларусі і Літвы ад Польшчы і іхнае з ёй палітычнае супрацоўніцтва. К. Каліноўскі занадта быў малады і занадта хутка расстаўся з гэтым сьветам і занадта хутка разьвіваліся крывавыя падзеі на беларуска-літоўскіх землях, каб ён змог і каб патрабаваў дакумэнтальна апрацоўваць сыстэму фэдэрацыі Беларусі і Літвы з Польшчай. Гэткай дакумэнтальнай сыстэмы сваіх фэдэрацыйных паглядаў Каліноўскі пісанай не пакінуў. Аб гэтым, як і аб самым факце фэдэралізму Каліноўскага, даведваемся ад бліжэйшых і ад далейшых да яго гісторыкаў. Вось-жа гэныя гісторыкі блізкія цалком і да часу і часта да асобы Каліноўскага (Гейштор, Ратч, Пшыбороўскі, Яноўскі, Ліманоўскі і інш.), — аб чым шырэй у тэй-жа маёй кніжыцы — сьцьвярджаюць бадай аднагалосна, што Каліноўскі фактычна жадаў Беларусь і Літву бачыць незалежнай дзяржавай, злучанаў з Польшчай толькі вольным саюзам, дагаворам. Апіраючыся на гэтым, можна цьвярдзіць, што Каліноўскі быў крайнім фэдэралістам, ці лепш: конфэдэралістым, бо Беларусь, Літву і Польшч ён разумеў як незалежныя дзяржавы, злучаныя між сабой саюзнымі дагаворамі і палітычнай дружбай.

І цікава тут адзначыць, што ў польскай літаратуры, у меру таго, як яна аддаляецца ад часу Каліноўскага, гэты ягоны незалежніцкі характар заціраецца на карысьць Польшчы. Так напрыклад нехта Licz аб Каліноўскім выражаецца даслоўна гэтак: Ideałem jego, do którego dążył, była Polska ludowa, oparta na zasadach federacyjnych“[3]). Тымчасам на падставе ўсяго таго, што аб Каліноўскім ведаем з яго

1) Piśmy z pad szybienicy.

2) Ad. Stankiewicz — K. Kalinoŭski, „Mużyckaja Prauda“ i ideja Niez. Biełarusi: VII!. K. Kalinoŭski — zmahar za palityčnuju samastojnaść Biełarusi i Litwy. 45—52.

3) Licz — Konstanty Kalinowski „Gazeta Wileńska“ 1906, Nr. 17.

друкаў і з галасоў аб ім сучасных яму гісторыкаў, належыць сказаць, што ідэалам яго былі ня „ludowa Polska, oparta na na zasadach federacyjnych, a „ludowa“ Беларусь і Літва апёртая на асновах фэдэрацыйных.

На заканчэньне астаецца нам яшчэ хоць коратка затрымацца над некаторымі да сяньня няяснымі пытаньнямі што да асобы Каліноўскага. Сучасны бальшавіцкі гісторык рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ад 1863 да 1917 г. С. Агурскі, мімаходам толькі ўспамінаючы Каліноўскага, прытым дужа павярхоўна, аднабока і варожа, — паддае аднак пад сумніў бліжэйшую лучнасьць яго з „Mużyckaj Praudaj“. Сумнівы свае ён апірае на тым, што як відаць з некаторых крыніц расейскай рэвалюцыйнай літаратуры („Колокол“, „Вперед“, „За 100 лет“ і „Былое“), блізкімі былі да „Muż. Praudy“ польскія паўстанцы: Врублеўскі, Тамашэўскі і Пятроўскі. Гэтыя асобы, як відаць з гэных крыніц, „Mużyckuju Praudu“ распаўсюджвалі, выдавалі і былі за гэта суджаны[1]).

Вось-жа маглі гэныя асобы, а так-жа і розныя іншыя, пашыраць „Muż. Praudu“ і даваць грошы на яе выдавецтва, а з гэтым адначасна Каліноўскі, як народнік і знаўца беларускай мовы, мог быць яе душой і рэдактарам. З усяго, што аб Каліноўскім і „Muż. Praudzie“ ведаем, гэтак і выглядае. Асобы-ж, аб якіх успамінае Агурскі, зьвязаныя так ці інакш з „Muż. Praudaj“, сталіся ведамымі толькі прыпадкам, асабліва, калі злавіла іх у лучнасьці з „Muż. Pr.“ паліцыя, бо-ж была гэта часопісь сьцісла конспірацыйная. Дзеля гэтых прычын у гэных успомненых расейскіх крыніцах не ўспамінаецца нічога аб Каліноўскім. А што Валеры Врублеўскі прынамсі да выдавецтва некаторых нумароў „Muż. Praudy“

---

1) „Следующие источники указывают на Врублевскаго і Томашевскаго, как на издателей „Muż. Praudy“.

а) В „Колоколе“ № 162, 1863 г. описвается процесс Томашевскаго и Петровскаго, происходивший в Вильно в мае 1863 г. Они обвинялись в распространении „Muż. Praudy“. Петровский был осужден к 6-ти годам каторжных работ с конфискацией имущества, а Томашевский — к 4 годам каторжных работ.

б) В „Вперед“ № 40 на стр. 670 указывается, что „Muż. Prauda“, выходившая в 1862-63 г. в Гродненской губ., издавалась при участии Врублевскаго.

в) В книге „За 100 лет“, часть 2, изданной Степняком и Бурцевым, указывается на стр. 55, что издателями „Muż. Pr.“ являлись генерал Парижской Коммуны Врублевский и Томашевский.

г) Во втором выпуске заграничнаго журнала „Былое“, выпущеннаго в 1906 г. Донской Речью в России на стр. 126 указывается, что издателями „Muż. Pr.“ были Врублевский и Томашевский.

Во всех этих источниках совершенно не фигурирует имя Кастуея Калиновскаго“ (С. Агурский — Очерки по истории революционнаго движения в Белоруссии. 1863—1917. Минск 1928, бач. 20, дапісак). Зазначаем адначасна, што ў гэтай кнізе знаходзіцца перадрук усіх сямёх нумароў „Mużyckaj Praudy“. Спатыкаецца так-жа зацемка (бач. 17), што ўсіх нумароў „Muż. Praudy“ было выпушчана дзевяць.

сапраўды належыў, расказваў мне аб гэтым ведамы, сяньня ўжо памёршы, адвакат Тад. Врублеўскі, якому Валеры прыходзіўся родным дзядзькам.

У іншай жа савецкай крыніцы, іменна — ў Энцыклёпэдыі, якая вышла двама гадамі пазьней ад працы Агурскага, Каліноўскі прадстаўлены, як барацьбіт за нацыянальную і соцыяльно-эканамічную і палітычную самастойнасьць Беларусі і Літвы[1]).

Урэшце яшчэ адзін сумніў што да асобы Каліноўскага, як беларускага народніка і рэвалюцыянэра. Маем на ўвеце адозву: «Да мужыкоў зямлі польскай», падпісаную ягонай мянюшкай „Ясько Гаспадар з пад Вільні", якая напісаная пабеларуску, заклікае народ на паўстаньне разам з Польшчай і за Польшч, бо „мы — чытаем там — спрадвякоў Палякі, на польскай зямлі жывём і польскі хлеб ямо". Што гэта за адозва і да каго яна празначана, — згадаць трудна, ці наўрад ці разгадаецца калі. Аднак, калі дапусьціць, што гэта адозва не падробленая, дык на нешта-ж і яна была Каліноўскаму патрэбнай. Можа праз яе зварочваўся ён спэцыяльна да спольшчаных беларусаў каталікоў, якія яшчэ ўжывалі беларускай мовы, а можа сусім што іншае меў на ўвазе. Але найхутчэй — на нашу думку — адозва гэна выдана палякамі імпэрыялістымі, так зв. „белымі", для якіх усе нашы землі і наш народ былі польскімі і якія падпісалі яе папулярным у народзе імем: „Ясько Гаспадар з пад Вільні". Бо-ж трэба ведаць, што гэныя „белыя" для сваіх чыста польскіх і панскіх мэтаў зараз пасьля «Mużyckaje Praudy» выдавалі так-жа ў беларускай мове часопісь „Гутарку Старога Дзеда" — Вінцуся Каратынскага[2]).

Ды як-бы там ня было з гэтай загадковай адозвай, нават дапусьціўшы, што яна для нейкіх прычын напісана і выдана сапраўды Каліноўскім, яна ніякім чынам не саб'е тэй гістарычнай праўды аб Каліноўскім, што ён першы беларускі народнік, першы пачынальнік вызвольнай барацьбы за соцыяльную і палітычную незалежнасьць Беларусі. „Быў гэта сапраўдны апостал беларускага народу"[3]).

---

1) „Первыя попытки социяльного и национального освобождения Белоруссии были сделаны во время польского восстания 1863 г. За освобождение белорусских крестьян из-под власти польского помещика и русского царя, за создание самостоятельного государства Литвы и Белоруссии и за передачу земли крестьянам без выкупа боролись „красные" (обедневшая шляхта, учащаяся молодежь) во главе с известным белорусским революционным народником Кастусь Калиновским. Малая Советская Энциклопедия, 1930. Т. I. Белоруссия.)

2) У. Ігнатоўскі — Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пач. XX ст. Менск, 1928, бач. 158

3) Dwadzieścia pięć lat Rosji w Polsce (1863 - 1888). Lwów 1892. Бач. 67. Цытую паводле: Ів. Цьвікевіч — К. Каліноўскі („Полымя" № 2(10), 1924).

# Кароткі агляд беларускага жыцьця.

„Шлях Моладзі“ зьяўляецца часопісьсю моладзі з сваім спэцыяльным характарам, дзякуючы якому на бачынах яго спаткаць артыкул, у якім разглядалася-б беларускае жыцьцё з усіх бакоў—трудна. Апошнія аднак падзеі вымагаюць, каб такі артыкул паявіўся. І вось, пастараемся зрабіць хоць кароткі, за апошні месяц, агляд беларускага жыцьця, пачынаючы ад тэй часткі нашага краю, каторая знаходзіцца пад Саветамі. Весткі, якія тут падамо, бяром з савецкае, польскае і беларускае віленскае прэсы, а перадусім ад былых сымпатыкаў савецкіх, каторыя хадзілі ў ССРР і стуль так ці гэтак вярнуліся.

Жыцьцё беларусаў у Саветах, паводле гэтых вестак, выглядае кашмарна. Людзі жывуць там у страху, баючыся адкрыта адзін з другім загаварыць; хлеба не стае, аб малацэ, яйках, масьле і мясе ня прыходзіцца гаварыць — усё гэта недаступны люксус. Малако, яйкі і інш. лепшыя прадукты дастаюць толькі дзеці, ну і начальства. Селянін — асабняк мусіць даваць для дзяржавы (казны) з гэктара зямлі 5 пудоў збожжа, ад каровы 250 літраў малака ў год, а так-жа і інш. прадукты, як яйкі і мяса. Калгасьнікі — г. зн. тыя, каторыя належаць да калектыву, мусяць даваць па 4 пуды ад гэктара і 200 літраў малака ад каровы. Нефаховы работнік зарабляе ў дзень 3 рублі, за якія пражыць можа тады, калі дастане картачкі ў коопэратывы, або належыць да колектыўнае стаоўкі. Інакш немагчыма, бо за кілёграм хлеба, або за адно яйко прыватна трэба было б заплаціць цэладзенны заработак. Не стае так-жа адзежы, якой вельмі трудна дакупіцца. Кожны работнік і калгасьнік, хоць маюць прывілеі, але падлягаюць срогай дысцыпліне і калі напрыклад хтось астаецца ў рабоце, ці зусім ня прыдзе да яе, дык яго зараз прабіраюць у мясцовай газэце, што вельмі забойчыва дзеіць на чалавека. Інтэлігенцыя жыве тая, якая ня мае і не выяўляе сваіх асабістых пaглядаў, а цалком аддаецца камуністычнай партыі. Тая беларуская інтэлігенцыя, тыя дзеячы, якія маюць сьмеласьць выяўляць свае асабістыя пагляды і цікавяцца беларускім жыцьцём, па прыпісаньні ім нацыянал-дэмократызму („нацдэмаўшчыны“) высылаюцца ў Сібір, на Салоўкі і іншыя далёкія краі ССРР. Спатыкае такі лёс і выбітнейшых беларускіх камуністаў, каторых маскоўскі камунізм баіцца астаўляць у родным краі дзеля таго, каб яны ня сталіся часам ідэолёгамі беларускага камунізму і не загарадзілі дарогі Маскве, якая нішчыць ўсё беларускае, калечачы нават мову апошняй рэформай беларускага правапісу. Усе б. паслы і дзеячы з „Грамады“ і „Змаганьня“, каторыя ня так даўно апынуліся ў ССРР і каторыя так моцна заступаліся тут за Саветы, сасланы на 10 г. на Салоўкі. Б. паслы Баран і Кахановіч, якія таксама выехалі з Польшчы ў ССРР—расстра-

ляны. Павадыра „Грамады“ Бр. Тарашкевіча, беларускага вучонага філёлёга, замест таго, каб даць яму магчымасьць працаваць у сваім краі на ніве беларускае культуры, бальшавікі адразу ад граніцы вывезьлі пад Маскву ў калхоз і далі функцыю аканома.

Праўда, школьніцтва і выдавецтва ў Радавай Беларусі, хоць у духу камуністычным, яшчэ вядзецца пабеларуску, аднак ужо ў друках паяўляюцца заявы вучыцеляк, што яны ня хочуць вучыць дзяцей пабеларуску, але жадаюць гэта рабіць „На русском Ленинском языке“. Разбудоўваюцца ў Саветах месты і фабрыкі, аднак да дабра далёка і пры сучасным настаўленьні савецкае палітыкі яго не дачакаць.

Сьведамасьць беларуская сярод работнікаў і сялян стаіць высока, пры тым пануюць сярод іх, а нават сярод арміі, праціўбальшавіцкія настроі, якія ўлады вельмі добра вычуваюць і пакульшто прымушаюць усіх скрывацца з сваімі паглядамі.

У Заходняй Беларусі, г. зн. ў граніцах сучаснай Польшчы, Беларусам жывецца так-жа не вясёла. — Вузкія сялянскія загоны не пашыраюцца, ўраджаю няма і нястача хлеба йзноў пагражае, а сэквэстратары патрапяць за падаткі нават і лахманы забіраць. Так напр. у вёсках каля Рэплі, Ваўкавыскага павету, жанчыны пахавалі тканіны ў рэку; аднак сэквэстратар і там іх знашоў і высушыўшы каля хаты ў солтыса, забраў за падаткі.

Аб разьвіцьці беларускае культуры ў Зах. Беларусі, хаця беларуская сьведамасьць пашыраецца, ня прыходзіцца гаварыць, бо вось якія апошнія весткі з беларускага жыцьця.

З днём 19 жніўня 1934 г. зусім зачыняецца прадапошняя беларуская гімназія, якая зьяўлялася філіяй дзярж. польскай гімназіі ім. А. Міцкевіча ў Навагрудку. З гэтай прычыны каля 100 вучняў акажуцца проста зламанымі, бо калі бацькі маглі іх вучыць у Навагрудку, дык ня змогуць вучыць у Вільні. Ня змогуць напэўна вучыцца і тыя каля 50 кандыдатаў новых вучняў, якія злажылі заявы аб сваім паступленьні ў гэтую гімназію.

20 ліпня с. г. сканфіскавана часопісь „Новы Шлях“ № 9.

25 ліпня с. г. сканфіскавана „Беларуская Крыніцы“ № 28.

30 ліпня с. г. сканфіскаваны зборнік вершаў і баяк Янкі Быліны „Na pokuci“, выданы Бел. Інстытутам Гасп. і Культуры.

25 ліпня с. г., як даведваемся, духоўныя каталіцкія ўлады забаранілі Кс. В. Гадлеўскаму даваць з сваім подпісам публікацыі Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры, якога ён зьяўляецца старшынёй, у „Беларускую Крыніцу“, з каторай арцыб. Ялбжыкоўскі і сам ня ведае як ужо змагацца за яе абарону беларускасьці ў касьцеле.

Калі дадамо да гэтага яшчэ, што на просьбу Будслаўскага Гуртка БІГіК даць дазвол на прадстаўленьне, Вялейскае стараства не дало нават адказу, а ня будзем ужо ўспа-

мінаць іншых сумных „зьяваў“, дык будзем мець абраз беларускага палажэньня ў сучаснай Польшчы, які вымоўна гаворыць сам за сябе.

Знаючы ўсё гэта, нікому дзіўнымі ня будуць уражаньні польскага культурна-асьветнага працаўніка з падарожжы па Пастаўскім павеце, надрукаваныя ў „Kurjery Wilenskim“ № 188, у якіх адкрыта гаворыцца, што прадстаўніку польскіх таварыстваў езьдзіць па нашых землях без апякуна (паліцыянта) ня можна.

Ня будзе дзіўнай так-жа заява пасла Камінскага на зьезьдзе прадстаўнікоў Колаў Млодзежы Вейскей у Вільні дн. 25.III.34 аб тым, што яны — Урад Віленскага Аддзелу гэтых Колаў — за 1933 г. самі былі змушаны зьліквідаваць 21 кола на беларускіх вёсках.

Ня дзіўным будзе так-жа яшчэ і тое, што сярод каталіцкае вясковае моладзі шырыцца таксама як і сярод праваслаўнае бязверра і непашана духавенства.

Народ беларускі ўжо дарастае і сам дамагаецца таго, што яму належыцца. Нават аўтор успомненых уражаньняў у „Kur. Wil.“ ня скрывае заяваў польскага паліцыянта, аб тым, што нашы сяляне любяць тых людзей, каторыя гавораць і навучаюць іх пабеларуску.

Дзіўнымі пасьля гэтага сапраўды выглядаюць толькі закіды польскіх уладаў і грамадзянства, што беларуская інтэлігенцыя быццам „падбурае народ“, а крыўднымі — тыя ўсе паліцыйныя канфіскаты беларускіх часопісяў „за падбураньне“, якіх польскі нават суд найчасьцей не зацьвярджае.

Цікава пры гэтым адзначыць адносіны да беларусаў цяперашняга старшыні „Grupy Regjonalnej Posłów i Senatorów Bezpartyjnego Bloku Współpracy z Rządem“, якая як ведама, мае рэгуляваць сужыцьцё народаў нашага краю.—Вось-жа было гэта пасьля першае канфіскаты „Шляху Моладзі“. Мне як аўтору сканфіскаванага артыкулу і рэдактару „Шл. М.“ прышлося шукаць абароны ў судзе. Зьвярнуліся мы тады да адваката, цяперашняга старшыні вышэй успомненай групы, каторы, прачытаўшы тое, за што сканфіскавана часопіс, пачаў нам правіць такія моралы, якіх ня правіў пракурор. — Ясна, мы такой „абароны“ зракліся, а суд нас і бяз яе ўнявіньніў. — З гэтага выснаў: ці можна спадзявацца ад такіх людзей, што яны зробяць нешта для палепшаньня долі беларуса? — Ніколі!

Кароткі гэты агляд беларускага жыцьця не патрабуе, здаецца, шырэйшых паясьненьняў, бо яны самі вельмі выразна ў кожнага чытача сфармулуюцца. Адно ясным усім нам будзе, што не падарозе нам з чужынцамі, не падарозе з Безпартыйным Блёкам з яго дабудоўкамі для моладзі, як Związek Młodzieży Wiejskiej, Zw. Młodzieży Ludowej, Legjon Młodych, Strzelec, Orlęta i inš. — **Наша дарога, наш шлях той,**

што вядзе да Беларусі, з беларускай народнай ідэолёгіяй, каторую выяўляе кожны селянін, мроючы аб шырэйшым загоне, роднай школе і лепшай долі. Я. Н.

---

## Praŭda pieramoža!

Biełaruskaje studenstva ŭ Vilni pieražyvaje siahońnia ciažkija kalainy svajho hramadzkaha i arhanizacyjnaha žyćcia. Roznyja prajdziśviety ŭkručvajucca ŭ rady našaha studenstva i starajucca źbić jaho z sapraŭdnaj darohi—darohi vyzvaleńnia Baćkaŭščyny. Najbolšym pładom varožaj siły byŭ vystup z Bieł. Studenskaha Sajuzu 12-ci siabroŭ, jakija paśla załažyli polonofilskuju korporacyju „Skaryniju" (travień 1931 h.). Apiakunami hetych studentaŭ-secesyjaneraŭ byli R. Astroŭski i A. Łuckievič. Zdavałasia — ŭsio dobra. „Skarynija" ličyła ŭžo bolš 25-ci siabroŭ, padymali ŭžo piśmiennuju kampaniju suproć niezaležnaha kirunku, raspraŭlalisia kułačna sa svaimi asabistymi praciŭnikami i h. d., adnak niedachopu idei, niedachopu lubovi svajej Baćkaŭščyny ničoha nie mahło im zastupić. Majučy na mecie tolki vyhody materjalnyja, usie kamiltony cisnulisia ŭ kiraŭnictva korporacyi, u vyniku čaho była viečnaja kałatnia i hryźnia. A kali dajšło da padobnaj hryźni za ciomnyja razrachunki pamiž Astroŭskim i Łuckievičam, to skarynčyki taksama padzialilisia na dźvie hrupy: Astroŭščykaŭ i Antonaŭcaŭ i, jak ichnyja apiakuny, vykidali adny druhich z arhanizacyi i «zaviešvalisia» ŭ siabroŭskich pravoch na ŭsie mahčymyja sposaby.

U vyniku ŭłady ŭniversyteckija, bačačy, što studenty-skaryńčyki źjaŭlajucca achviarami ciomnych razrachunkaŭ nizkich ludziej i ŭžo tak nizka pali, što nia zdolejuć padniacca da hodnaści arhanizovanych studentaŭ, „Skaryniju" raźviazali.

Sumnyja hetyja padziei niachaj buduć navučkaj dla našaj moładzi, sto tam budzie praca, tam budzie arhanizacyja, žyćcio i lepšaje zaŭtra, dzie jość ideja, dzie jość achviarnaść, a nia hruby materjalizm. Pracy i idei chopić dla ŭsich, ale materjalnych vyhodaŭ nia chopić i ludzi biezidejnyja nie padzielucca hetymi vyhadami i zahryzucca na śmierć, bo tut prajavicca ich źviaryny instynkt.

Nia budzie bolš „Skarynija" zatručvać dušy małaśviedamych studentaŭ i naahuł moładzi, nia budzie padryvać niezaležnaha stanovišča „Šlachu Moładzi", nia budzie chvalić svajho b. filistra Astroŭskaha i „panóv" chlebadaŭcaŭ; projduć hady, zahinie ab joj sumnaja pamiać, astaniecca tolki navuka, što kali chočaš žyć, to budź vierny i addany svajmu harotnamu narodu, pracuj dla jaho z usich sił i nie hanisia za čužackimi abiecankami, nia prymaj udziełu ŭ hryźni ciomnych adzinak.

Kali-ž nia spoŭniš hetaha,—zhinieš, jak „Skarynija".

*J. Malecki.*

# Lipień.

Lipień — 7-my miesiac hodu. U rymlanaŭ — Julius, raniej Quintilis; franc. — Juillet, niam. — Juli; anhl. — July. U respublikanskim kalendary — Messidor, miesiac žniva. U słavianaŭ i starabiełaruski nazoŭ — červień; česki i słavacki — červenec; ras. — ijul, pol. — lipiec, ukr. — łypeń.

Biełaruski nazoŭ — lipień — pachodziać ad «lipy," jakaja ŭ hetym miesiacy zaćvitaje.

U rymlanaŭ až da 44 h. da N. Chr. hety miesiac nazyvaŭsia prosta piatym miesiacam hodu, quintilisam (hod pačynaŭsia z sakavika). Ale ŭ 44 hodzie, u hod trahičnaj śmierci Julija Cezara, rymski tryumvir Antoni, dziela ŭšanavańnia pamiaci Cezara, nazvaŭ hety miesiac Julius'am.

Staražytnyja hreki štohodu ŭ hetym miesiacy spraŭlali 4-chdzionnaje śviata Panafinejaŭ u češć bahini mudraści — Afiny (u rymlanaŭ Minervy). Panafinei byli vialikim śviatam i składalisia jak z uračystych pracesijaŭ, tak i z roznych narodnych hulniaŭ, na katoryja składalisia: baraćba atletaŭ, himnastyčnyja štuki, piešyja pieraścihi, piajańnie, muzyka i tancy. Na achviaru bahini Afiny na jaje aŭtary składałasia h. zv. hekatomba karoŭ i heta było tak charakterystyčnym, što sam hety miesiac u hrekaŭ nazyvaŭsia hekatombajon.

Lipień — siaredni miesiac leta i na Biełarusi samy haračy, ale pad kaniec m-ca byvajuć chałodnyja nočy. U lipni na Biełarusi byvaje najbolš atmosferyčnych vopadziaŭ u vidzie daždžoŭ, rasy i časam tumanu.

Za m-c lipień dzień ubyvaje na 1 h. 46 minutaŭ.

U narodnym kalendary:

Lipień kosić i žnie, doŭha spać nie daje. Lipień piakučy, ale daručy. Lipień što spalić ahniami, toje zalle daždžami. Chto ŭ lipni na poli pacieje, taho ŭzimku i piečka pahreje. U lipni z kasoju mužyk, a baba z siarpom — ale ŭsio ŭ chacie ładkom.

I.VII. (S. s.). Na Kuźmu i Dziamiana kasić nia rana. Kuźma i Dziamian pryšli, na sienakos pašli. Sv. Piatro žyta śpielić, śv. Kuźma siarpy robić, a śv. Dziamian siena hrabić.

10.VII. Siem bratoŭ varožać, kolki tydniaŭ pahody.

20.VII. (S. s.). Illa žnivo pačynaje, a leta kančaje. Kali na Illu paśpieli čarnicy, paśpieła i žyta. Illa na poli kopy ličyć. Śv. Illa — słaŭna žniaja. Da Illi choć adnym zubam ziamlu parni. Na śv. Hallaša z novych krup kaša. Da Illi na sienie pud miodu, a pa Illi pud hnoju. Na Illu da abiedu leta, a na abiedzie vosień. Na Illu doždž — nieŭradžaj na harechi. Da Illi pop u Boha prosić daždžu, a pa Illi baba i chvartuchom nahonić. Illa narobić hnilla. Illa vajuje z čartami, ich bje piarunami.

Kali za 7 tydniaŭ pierad Illoju pajaviacca na krapivie červi — tady siej hrečku.

25.VII. Jaki Jakub da paŭdnia, takaja da śnieżnia zima.

25.VII. (S. s.). Św. Hanna snapy kładzie.

26.VII. (S. s.). Barys i Hleb — paśpieŭ chleb. Na Barysa sam baranisia. Św. Barys snapy vozić.

30 VII. (S. s.). Chto na siłu žyta pasieje, u taho na chleb nadzieja.

## Žnivień.

Žnivień — 8-my miesiac hodu. U rymlanaŭ — Sextilis, paźniej Augustus; franc. — août (u), niam. — August, anhl.— vaugust U respublikanskim kalendary — Thermidor, miesiac haračyni. U słavianaŭ — sierpień; česki — srpen; — rasiejski — avgust; polski — sierpień; ukr. — serpeń.

Biełaruski nazoŭ — žnivień — pachodzić ad słova «žnivo,» jakoje ciahniecca amal uvieś miesiac. Starabiełaruski nazoŭ — zarev.

U rymlanaŭ až da 24 h. (pa inšych viestkach da 8 h. da Nar. Chr.) hety miesiac, jak šosty ŭ hodzie prosta nazyvaŭsia «Šosty» (Sextilis). Ale ŭ 24 h. (ci ŭ 8—m?) rymski Senat pierajmienavaŭ jaho na Augustus, a heta dla ŭšanavańnia impeřatara Oktaviana Aŭhusta za jahonyja dabradziejstvy, akazanyja rymskamu narodu. Miesiac Sextilis až da Numy Pampilija (715—673(?) h. da N. Chr.). mieŭ 29 dzion, a jak Augustus —staŭ mieć 31 dzień. Hetyja 2 dni dadaŭ Senat, kab Augustus nia byŭ karaciejšym ad miesiaca Julius'a, nazvanaha ŭ češć Cezara, bo, jak uvažaŭ Senat, zasłuhi pierad rymskim narodam jak Julijaha Cezara, tak i Oktavijana Aŭhusta byli adnolkava vialikimi, dyk i miesiacy, nazvanyja ichnymi imionami, pavinny być adnolkava doŭhimi. Z taho času i pa takoj pryčynie sumiežnyja miesiacy lipień i žnivień majuć pa 31 dniu.

23 žniŭnia rymlanie śviatkavali Volcanalia, ŭ češć Vułkana — boha padziemnaha ahniu i ahniu ŭ piečach, a tak-ža apiakuna kavaloŭ i ŭsich tych, chto vyrablaŭ što-niebudź pry pomačy ahniu.

Žnivień naležyć da leta i zvyčajna padobny da lipienia, choć nie taki haračy, jak jaho papiarednik, bo maje daŭžejšyja i chaładniejšyja nočy. Da Biełarusi ŭ žniŭni zvyčajna ścichajuć viatry i daždžy i pačynajecca peryjad jasnaha nadvorja.

Za ŭvieś miesiac žnivień dnia ŭbyvaje na 2 h. 1 minutu

U narodnym kalendary:

U žniŭni panami siarpy—marudy tady nie ciarpi. Chto ŭ žniŭni hulaje, toj zimoj haładaje. Kožnaja chata ŭ žniŭni bahata. Što pole ŭrodzić, žnivień pazvozić.

I.VIII.(S. s.). Pieršy Spas. Pačynajecca Spasaŭka-Łasaŭka.

2.VIII.(S. s.) Sv. Bazyl aviečkam voŭnu daje.

6.VIII. (S. s.) Druhi Spas. Pieršy i druhi Spas, biary rukavicy ŭ zapas. Pryšoŭ Spas — usiamu čas. Pryšoŭ Spas... i leta ad nas. Na Spas dosyć chleba ŭ nas.

15. VIII. Pieršaja Pračystaja. Pieršy śviatok. Da śviatka arać — lišniuju kapu nažać. Pračystaja pryniasie chleba čystaha. Pryšła Pračysta—stała pole čysta. Pryšła Pračysta — usio ŭžo čysta. Kančajecca Spasaŭka-łasaŭka. Pieršy śviatok i pieršy śvitok. Zielnaja Božaja Maci ŭsiaho moža nam daci.

15.VIII. (S. s.). Treci Spas. Pa trecim Spasie trymaj rukavicy ŭ zapasie

24.VIII. Šv. Baŭtramiej dušyć avadnioŭ i trucić muchi. Sv. Baŭtramiej vysyłaje busłaŭ na dziaciej. Pryšoŭ Baŭtramiej — žyta na zimu siej.

28. VIII.(S. s.). Majsiej Muryn — scaliciel ad pjanstva.

29.VIII.(S. s.). Ivana —Kalińnika. Da Jana prasiecie dzietki daždžu, a pa Jnnie ja j adzin uprašu.

*Uł. Paй—ski.*

---

# Літэратурны аддзел.

## ЛЕТА.

Сонца парыць. Дзень вялікі...
Набліжаецца Ліпень:
Сьпее жыта, цьвітуць ліпы,
Вабіць ў госьці к сабе цень.

Луг зялёны ажывіўся:
Косы вострыя зьвіняць,
Сена копкамі акрыўся,
Дыша пахам сенажаць.

Ў лесе ягады пасьпелі—
Сабірае дзетвара;
Ў садзе вішні счырванелі,—
Вось і жніўная пара:

Жніва жыта пачалося —
Цэлы дзень сярпы шасьцяць,
Поле песьняй абдалося,
Лялькамі снапы глядзяць.

Усьлед за жытам, і пшаніца,
І вусаценькі ячмень,
А гавёс дык ня сьпяшыцца
І чакае на Жнівень.

Дні гарачыя ўцякаюць —
Жніва цягнецца далей:
Збожжа звозяць,ўсё зьбіраюць
А палос пустых балей,

Бабы, дзеці сабіраюць:
Ягады й грыбы ў лясох;
Між лісткамі дасьпяваюць
Грушы, яблыкі ў садох.

Лес і поле зацішэлі —
Сьпеваў птушак ня чуваць,
У вырай буслы паляцелі,
Пчолкі ў кветках ня відаць.

Хмары густы ходзяць сумна
Зацягнуўшы небасход;
Дзеці йдуць да школы шумна.
Распачаўся школьны год.

Дні туманныя прыходзяць,
Жыта сеюць... Верасень!
Лета цёплае праходзіць,
Параўняўшы ноч і дзень.

**А. Жук.**

## ДА ПРАЦЫ.

Мінула ноч і дзень ільсьніцца.
Да працы час! даволі спаць!
Глядзеце: сонца як ірдзіцца...
Пара, пара, браты, ўставаць!

За працу нам пара узяцца
Пакорным век даволі быць,
І трэба голасна азвацца:
Старонка наша хоча жыць!

Даволі холад, голад зносіць,
Пагарды ўсякі зьдзек
І крыўды, лаянкі ўжо досыць
Падзякай мець... аж цэлы век.

Ідзём... і шчыльнымі радамі
Праб'ём сабе ясьнейшы шлях!
Даволі мучыцца гадамі,
Пара ўгару падняць свой сьцяг.

**Коля Гараўнік.**

* * *

Яна пяе...
І льюцца лёгка гукі,
І сэрца моцна б'е...
Перада мной ўстаюць былыя мукі
Дзён сумных і шчасьлівых дзён...
Пад арфы струнаў ціхі звон
Зьвіняць каханьня струны ..
Зьвіняць...
А чорны чараўніцы вочкі, мо'ў пяруны
У вячэрнім мроку зіхацяць.
Пяе яна...
І буйны косы расплялся,
Ўкруг стану стужкай абвіліся...
Ў грудзёх вагні,
Вагні ў вочках чорных
Хвілінаў шчасьця зорных
Наводзяць сны...
Пяі, о мілая, і сэрцу дай заснуць...
Забудзь пра гора, пра мінулае забудзь!
Пяі! Хай ў гуках тваей песьні
Сальецца ўсё, чым дышуць твае грудзі,
Хай твая песьня будзе
Гымнам прадвесьня,
Гымнам красы вясны...
Пяі, пакуль гуляе кроў,
Пакуль ня выпіта да дна
Каханьня чара,
Пакуль красуецца жыцьця вясна.
Пакуль ня стала ля вакна
Няшчаснай долі мора...
Бо мінуюць дні
І ты будзеш зноў
Адна...

**А. Бярозка.**




* * *

Надзейся на сілу, на гарт свайго цела—
Здабудзеш ты сонца агні!
Глянь ворагу ў вочы адважна і сьмела—
І самі спадуць кайданы!

Сплыве тваё гора, адыдуць мучэньні,
Жыцьцё зацьвіце, як вясна;
Адхлынуць ад сэрца ўсе болі-цярпеньні—
Красой абальецца душа...

Салодкае радасьці чыстай сьлязою
Зямелячку родну зрашу
І буду маліцца я цэлай душою
За тых, хто палёг у баю!

МАЛАДЫ ДУБОК.

---

L. Vojcikava.

# Budaŭnictva ŭ ptušak.

Amal nia ŭsie pradstaŭniki źviarynaha śvietu budujuć sabie mienš ci bolš vyhodnyja pamieškańni —hniozdy, u jakich abo tolki vyvodziać dziaciej, abo žyvuć stała.

Hniozdy, asabliva ptušynyja, padčas budujucca z vialikim mastactvam i adznačajucca vialikaj raznajakaściu. U kožnaha rodu ptušak svaja asablivaja architektura (budaŭnictva); kožny rod užyvaje inšyja materyjały i prydaje svajmu hniazdu asablivuju formu i pałažeńnie; ŭ bolšaści vypadkaŭ samka biare na siabie budovu hniazda, a samiec tolki dastaŭlaje materyjał.

Najcikaviejšyja hniozdy tych ptušak, jakija ŭjuć ich na drevach i naahuł hniozdy ptušak najmienšych. Ptuški budujučyja svaje hniozdy na skałach šmat mienš prykładajuć starańnia da svajej raboty.

Najčaściej ptuški ŭjuć svaje hniozdy paasobku, adnak šmat jakija złučajucca całymi hramadami i tvorać sapraŭdnyja kalonii. Čajki i marskija rybałovy budujuć svaje hniozdy

adny kala adnych; čapli žyvuć i budujuć ahramadnymi kalonijami. Z bolšych ptušak asabliva cikavyja hniozdy robić h. zv. *flaminh*, jaki žyvie na bierahoch Čornaha i Kaśpijskaha mora i hnieździcca ŭ Kirhizkich ściapoch. Jon buduje svaje hniozdy na mała dastupnych dzirvanoch, kalonijami; majuć jany formu vysokich da vierchu zvužanych kučaŭ; robiacca z mochu.

Amerykanskija vierabji ci h. zv. hramadzkija tkačy hnieździacca supolna, pad adnej, svaimi siłami zbudavanaj, strachoj.



Hniazdo baciana (busła).

Voś što kaža ab ich padarožnik Peterson: „Da tysiačy paasobnych hniozdaŭ prytuliłasia pad supolnaj strachoj, jakaja prykładžanaja na drevie i visić nad hniozdami tak, što nijakija drapiežniki, nijakija vužaki tudy daleźci nia zmohuć. Hetyja vierabji prypaminajuć svajej pilnaj pracaj pčoł. Cely dzień jany tolki toje robiać, što źbirajuć materyjał dla svajej budovy. Kolkaść hniozdaŭ jany štohod zbolšyvajuć, tak što časam dreva až hniecca pad ciažaram pavietranaha horadu.»

Časam i našy vierabji hnieździacca hramadami. Tak, naprykład, pryšłosia mnie bačyć, jak całaja hramada vierabjoŭ prytuliłasia ŭ ščełkach bacianovaha hniazda, źvitaha na strasie humna.—Našy łastaŭki — paŭźbieražki mieściacca hramadami na vysokim uźbiarežžy rek dy vazior, dzie kapajuć kali-

dorčyki, na kancy jakich ścieluć hniozdy. Hramadami hnieździacca taksama varony i hałki, budujučy na vysokich drevach hniozdy, jakija vyhladajuć, jak kučy suchoha chvorastu.

Bolšyja ptuški naahuł mała zadajuć sabie kłopatu budujučy svaje hniozdy; naprykład viciucień (rod dzikaha hałuba) robić na halinkach dreva adnu tolki padłohu i to redkuju, jak rešata. Łuń-ža, dyk toj zusim hniazda nia ŭjeć, a prosta kładzie svaje jaječki na jakim papała, aby tolki hładkim miejscy i tam ich vysiedžyvaje. — Saroka buduje hniazdo asablivaje, bo choć i zroblenaje sa zvyčajnych suchich sučkoŭ, ale maje strachu, jakaja baronić ad daždžu. Najbolš adnak pracy i mastactva pry budovie hniozdaŭ pakładajuć mienšyja ptuški, jak našyja tak i inšych ciaplejšych krajoŭ. Nadzivicca čałaviek nia moža, jak hetaje maleńkaje stvareńniečka hry pomačy svajej dziubki dy pazurkami zdoleje žvić sabie chatku, ścisła dastasavanuju da svaich patrebaŭ i vymohaŭ. Da taho, časta hnieździečki byvajuć vielmi pryhožyja, a zaŭsiody vielmi symetryčnyja (roŭnyja).

Budaŭlany materyjał užyvany ptuškami byvaje samy raznajaki; tak sama miejscy dziela budovy hniazda vybirajucca samyja roznyja. I tak, maleńkaja lasnaja ptuška *budaŭničok* robić sabie chatku ŭ travie, pad drevam, ŭ formie šałašyka žvitaha z mochu i suchoj travy. Pryhožaja załacistaja *ivałha* (vilha) viešaje svajo hnieździečka vysaka nad ziamloj, na tonieńkich halinkach biarozy. Jak jano mastacka žvita z ściablinak, vałaskoŭ, paŭścinak, dy tonieńkaj biarosty!—Dziacieł, špak dy siniak hnieździacca ŭ dupłach starych drevaŭ, dzie ścieluć sabie paścielki z mochu, pierjaŭ i pušynak. Žaŭranak kładzie hniazdo pad kamieńčykam, hrudkaj ziamli, abo ŭ zbožžy, splatajučy jaho z kareńčykaŭ i vyściłajučy pucham. Vadzianaja ptuška *čomha* robić hniazdo płyvučaje. Heta paprostu składzienaja kuča suchoha čarotu, pasiarod jaje niahłybokaja jamka, dno jakoj vysłana miahkaj bałotnaj travoj, na travie lažać čomhavyja jajki, prykrytyja lohkimi suchimi čarocinkami.

Naša łastaŭka budujecca pad strechami ludzkich damoŭ, chlavoŭ, humnaŭ i h. d. Hniazdo svajo lepić, jak najlepšy mular. Materyjałam służyć jej bałota naźbiranaje z darohi, źmiašanaje z ŭłasnaj ślinaj; dziela mocy dadaje jana krychu sałominak dy vałośsia. — Jaje dalokaja svajačka— łastaŭka indyjskaja lepić hniozdy vyklučna sa svajoj lipkaj śliny. Jany majuć formu misački i pryleplivajucca da nadmorskich skałaŭ. Hniozdy hetyja ličacca ŭ kitajcaŭ vialikim prysmakam i doraha ceniacca.

Z ptušak ciopłaha kraju na najbolšuju ŭvahu zasłuhoŭvaje h. zv. ptuška — *švačka*, jakaja sšyvaje sabie hniazdo z niekalkich listkoŭ, užyvajučy zamiest šyła—svajej vostraj dziubki, a zamiesta nitki —mocnych ściablinak.



Hniazdo švački padajom voś z boku na rysunku.



Vielmi cikava tak-ža budujućsabie hniozdy aŭstralijskija kury, jakija pakazany na rysunku vobak. Jany budujuć sabie hetyja hniozdy ŭ formie stažkoŭ z apadajučych z dreŭ liciaŭ, pieradusim dzielavysiedžvańnia pisklaniat.

Trudna pieraličyć ŭsie cikavyja ptušynyja budovy. — Žviartajučy pilnuju ŭvahu sami zmožam adkryć nie adno cikavaje hniazdo, jakoje svajej pryhažynioj dy mastactvam raskaža nam ab zdolnaściach i pracavitaści maleńkaha budaŭničaha i ŭzbudzić u našaj dušy pašanu dla jaho pracy.

# З веснашумаў.

*Прысьвячаю нашай моладзі.*

Ідзеце ў поле.

Ідзеце спатыкаць вясну...

Ідзеце глядзець, як у творчым рытме, родзіцца новае жыцьцё.

Ідзеце глядзець, колькі хараства, колькі новых тонаў, рассыпала вясна на неабсохшую йшчэ зямельку...

Гляньце... Там з пад кустка цягнуцца да сонца, кволыя пялюсткі, пралесак.

Гляньце!... як прыгожы гэтыя першыя красачкі, у сінім скромным уборы.

Скіньце вашы чаравікі — ня бойцеся, не захварэеце. Зямелька цёплая, а яны занадта калечуць жывы аксаміт маладой травіцы.

Шануйце яе... яна цягнецца да сонца... Яна хочыць жыць,... дайце вашым нагам адчуць яе мягка-шаўкавістую пяшчоту.

Расхрыстайце грудзі... Дайце цёпламу паветру распагодзіць ваш твар... Ён аднясе ваш сум, ваш боль у тыя сіня-дрыжачыя далі, дзе ў творчым абняцьцю цалуецца неба з зямлёй.

Чуеце, як кудзелюцца валасы... Чуеце, як хтось лагодна шчакочыць ваша адкрытае целэ... Думаеце вецер?... Не. Гэта песьціць вясна... гэта цалуе сонца... гэта цалуе—жыцьцё.

Прыслухайцеся... Чуеце там у воддалі бурлівы шум? Гэта муміць руччэй ськінаўшы лядовыя аковы зімы... Шуміць сьвежымі вясьнянымі сіламі. Скачучы з каменя на камень, уючыся між крутых берагоў, — бунтарна зносіць усе перашкоды і сьпяваючы бурную песьню перамогі мкне наўперад.

Мкне нястрыманы!.. мкне шчасьлівы!

Ці не парывае вас яго бязмежная энэргія?

Ці ня чуеце, як сэрца заражаецца яго бунтарным рытмам,... як усё мацней і мацней б'е ў грудзёх,як-бы жадаючы вырвацца, зьліцца з вольнай хваляй і бясспынку мкнуцца разам гэнь — у нязведаную даль.

Гляньце ў неба...

Як чыста, як глыбака сінь небасхілу. Як вясёла, як звонка ліецца адтуль, у іскрах сонечных кос—трэль жаўрука.

Ці-ж не захоплівае вашу душу радасьць гэтай маленькай істоты?...—радасьць пазнаўшага хараство жыцьця...

Слухайце сэрцам. Ён пяе гымн прыродзе. Ён пяе песьню ўдзячнасьці за кароткі міг быцьця.

Слухайце яго; ён пазнаў радасьць... Ён пазнаў шчырае шчасьце! Шчасьце — жыць!

Ідзеце ў лес...Ідзеце слухаць веснашумы. Шу-ш-ш-шу— густа шуміць спатыкаючы вас ёлачка.— Шу-шу-шу вясёла шуміць сасьняк, распускаючы навокал пахучы водар сьвежай смалы.

Глядзеце, як прыгожа апусьціла ўніз свае галінкі бярозка,—прыбраная у зялёна-бліскучы аксаміт маладога лісьцейка.

Глядзеце, быццам стройная дзяўчына, ў белай сукенцы, з распушчанай на плячох касой,ківае вам ветліва на павітаньне сваей вяршынкай.

Глядзеце, як дрыжыць дрожжу роскашы пад пяшчотамі сонца і вецярка, маладая асінка.

Глядзеце, як магутны дуб выцягнуў да неба свае нязлічаныя рукі....

Як ён прыгожы... у сваім велічава-нярухомым задуменьню, з паднятымі ўверх рукамі... Быццам мудрэц, развагае над тайнай жыцьця... Быццам ахвярнік у часе ахвярнай малітвы перад аўтаром жывога Бога красы. Перад аўтаром нягаснучага — Зьніча.

Як вясёла тут! Як радасна зьвіняць галасы! Так і жадаецца расьцягнуцца на пушыстым дыване маладога моху і бясконца глядзець у бяздоньне сіняга неба, ап'яняючыся зялёнмы шумам вясны.

Базараў сказаў:—сьвет—майстроўня. Так—майстроўня. Майстроўня вялікага Мастака. Майстроўня, дзе творыцца вечна жывая, вечна маладая краса жыцьця і само жыцьцё.

Дык ідзеце спатыкаць вясну... Ідзеце ў поле. Ідзеце ў лес. Ідзеце піць солад веснашумаў. Пакуль трывае вясна. Пакуль трывае жыцьцё!...

**М. Машара.**




*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Спартовы рэкорд беларуса.** На міжнародных гонках лодак на возерах у Троках 9 ліпня і на такіх-жа гонках у Рызе (ў Латвіі) 29 ліпня с. г., дзе былі спартоўцы з Латвіі, Польшчы і Нямеччыны, першае месца заняў беларус, студэнт Юры Кепель, б. старшыня Бел. Студэнскага Саюзу Шкада толькі, што няма ў нас свайго спартовага клюбу і што студ. Ю. Кепель змушаны выступаць ад польскага Студ. Сп. Саюзу. — Аб сваім спартовым клюбе пара даўно ўжо нам падумаць, бо ёсьць і іншыя спартоўцы беларусы, якія таксама выражняюцца і зьбіраюць славу для польскіх клюбаў. Праўда, залажыць нам свае спартовае арганізацыі не ўдалося, бо ўлады не зацьвердзілі статуту, але можа ўдалося-б залажыць прынамсі спартовую сэкцыю, пры якой-небудзь беларускай культурна-асьветнай арганізацыі.

**Беларускі Адрыўны Календар на 1935 г. ужо друкуецца.** Выдаюць яго тыя самыя людзі ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны, што і ў мінулым годзе. У прошлым годзе ўвесь наклад беларускага календара разышоўся бадай што да Новага Году і пасьля яшчэ не ставала.

**З выдавецкае нівы.** Нядаўна вышла з друку пабеларуску, усясьветнай славы кніжка Тамаша Кэмпійскага п. н. „Śledam za Chrystusam“. Кніжка гэта мае 280 бачын. Пераклаў яе з лацінскае мовы на беларускую др. Ст. Грынкевіч, а выдала выд. „Chryścijanskaj Dumki“. Кніжка мае духоўную апробату і каштуе ўсяго 1 50 зл.

БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. Нацыяналістычныя латвійскія ўлады нядаўна арыштавалі рэд. „Бел. Школы ў Латвіі“ — грам. К. Езавітава.

---

# Usiačyna.

**Strašnaja pavodka** niadaŭna naviedała Zach. Halličynu i Centralnuju Polšč, dzie zalityja byli vializarnyja abšary ziamli, vioski i miesta. U niekatorych miascoch vada parabiła strašennyja źniščeńni, znosiačy zžataje zbožža, vioski, masty, psujučy darohi i h. d. Paciarpieŭšych naličajuć bolš 50.000 s'emjaŭ, a straty vynosiać miljony złotaŭ.

**Pieralacieli z Ameryki ŭ Eŭropu** na samalocie dva braty Adamovičy, jakija rodam z našaha kraju, z-pad Ilji, Vialejskaha pavietu, što vidać navat i z ichnaj movy. U Polščy prymajuć bratoŭ Adamovičaŭ usiudy vielmi ŭračysta. Nia možna pry hetym abaranicca ad uražańnia, što našy ludzi źbirajuć słavu Varšavie, i to nia pieršy ŭžo raz. — Inačaj, dumajem, žyćcio vyhladała-b, kab my byli krychu silniejšymi... i da hetaha treba imknucca.

**U Aŭstryi** 25 lipnia s. h. vybuchnuŭ hitleraŭski bunt, u časie jakoha zabili kanclera Dollfussa. Urad adnak sytuacyju apanavaŭ i bunt zdušyŭ. Usich zabitych naličajuć bolš 200 asob.

**U Niamieččynie** u nočy 30 červienia s. h. Hitler kryvava raspraviŭsia z svaimi najbližejšymi vorahami, jakija akazalisia ŭ jahonaj partyi, zabivajučy niadaŭnych jašče svaich supracoŭnikaŭ. Usiaho zabita kala 70 asob. — 2 žniŭnia s. h. pamior prezydent Niamieččyny, feldmaršałak Hindenburg. Miesca jaho zaniaŭ Hitler.

**Chto zabiŭ min. Pierackaha**, dahetul nia vyjaśniena. Adnak pavodle zajavy polskaha ministra spraviadlivaści vyhladaje, što da śmierci Pierackaha pryčynilisia ukrainskija nacyjanalisty.

**Kusocinski**, viedamy polski spartoviec, niadaŭna ŭ Štokholmie straciŭ svoj suśvietny rekord u biehańni. Pabiŭ jaho daniec Nelson.

**Saviecki latun Jeŭdokimaŭ** pabiŭ suśvietny rekord skačučy i ščaśliva apuščajučysia na ziamlu z spadachronam z samalotu z vyšyni 8100 metraŭ. Lacieŭ jon z hetaj vyšyni na ziamlu krychu bolš jak 142 sekundy, spadachron adčyniŭ budučy nad ziamloj na vyšyni ŭsiaho tolki 200 metraŭ.

**Amerykanski lot u stratasferu nia ŭdaŭsia**, bo balon na vyšyni 15.500 metraŭ pačaŭ psavacca i łopnuŭ. Latunom jaho Kepneru, Svensu i Andersonu pry pomačy spadachronaŭ ščaśliva ŭdałosia spuścicca na ziamlu.

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

М. Машары і В. Катовічу. Матэр'ялы атрымалі, як бачыце ўжо пачалі з іх карыстаць. Шчырая Вам падзяка і прывет!

Lavon S. Просьбу спаўняем і шчыра дзякуем за мілыя словы і памяць, па характары аднак пісьма ня можам прыпомніць хто Вы. Будзьце ласкавы, напішыце пісьмо, будзем вельмі ўдзячны.

Н. Жальбе. Вершы атрымалі йзноў, папраўіўшы будзем старацца хоць частку зьмясьціць. Больш працуйце над сабой.

А. Бярозцы. Атрымалі, дзякуем, скарыстаем. Прывет!

А Мілюцю. Адзін з Вашых вершаў зьмесьцім у наступным нумары. Рэшта слабыя. Поступ у Вас значны.

P. Ram—čuku. Ščyra dziakujem za ŭsio prysłanaje, skarystać na žal pakulšto nia možam, bo ŭsio vielmi sł·boje. Piśmom damo adkaz padrobna. Česć Vam za kulturnuju pracu.

А. Папарацю. Ваш верш слабы, і праз цэнзуру ня пройдзе; дзеля гэтага ня можам яго зьмясьціць. Калі будзеце больш пісаць, дык лепш апрацоўвайце. Прысланы Вамі адрэс на пробны нумар „Ш. М." напісаны так ня выразна, што мы ня можам часопісі высылаць на яго.

Колі Гараўніку. Адзін з Вашых вершаў друкуем, з рэштай будзем рабіць у меру магчымасьці. Пішыце карацей, лепш апрацоўвайце, зварочваючы ўвагу на нашы папраўкі. Слоўніка беларускага такога, як Вы просіце, няма.

Маладому Дубку. Вершы атрымалі, адзін з іх ужо друкуем. Зьвярнеце ўвагу на папраўкі і пішэце выразьней пяром, а не алоўкам. Адказ на ўсе пытаньні дамо пісьмом тады, як дастанем той адрэс, каторага Вы просіце.